


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 5(663)**
**Травень 2021 г.**


# Чарнобыльскі мітынг на Мангэтане

У нядзелю, 25 красавіка 2021 году, Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне "Пагоня" правяло мітынг, прысьвечаны 35-й гадавіне Чарнобыльскай трагедыі. На акцыі, што адбылася насупраць будынку штаб-кватэры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў на Мангэтане, прысутнічалі беларусы, якія адмыслова прыехалі з розных штатаў ЗША.

Перад удзельнікамі мітынгу выступіў сп. Віталь Зайка, старшыня Згуртаваньня "Пагоня". Ён нагадаў прысутным пра падзеі 35-гадовай даўніны, часы аварыі на атамнай станцыі, калі на Беларусь прыйшла радыяцыйная хмара, і лёг чорны цень катастрофы, калі народу не паведамілі пра маштабы трагедыі, не забясьпечылі інфармацыяй і мінімальнымі мерамі перасьцярогі, калі дзеці разам з дарослымі выходзілі на першамайскія мітынгі, арганізаваныя камуністычнымі структурамі, дыхалі насычаным нуклідамі паветрам, удыхалі радыёактыўны пыл. Затым былі трагедыя перасяленьня, адмена ільготаў для пацярпелых ад аварыі й ліквідатараў, а пазьней – заявы Лукашэнкі, што небясьпека ўжо прайшла і нібыта на забруджанай тэрыторыі можна вырошчваць чыстую сельскагаспадарчую прадукцыю. У выніку здароўе тысяч людзей было непапраўна пашкоджанае. Затым Лукашэнка пад маркаю "энэргетычнай незалежнасьці" завёў краіну ў яшчэ большую залежнасьць ад Расеі – цішком ад народу было вырашана збудаваць атамную электрастанцыю, выкарыстоўваючы расейскі капітал, расейскія кампаніі, расейскія праекты, з будучай расейскай утылізацыяй радыёадпадкаў – гэта фактычна энэргетычнае расейскае паняволеньне новых пакаленьняў беларусаў і дамоклавы радыяцыйны меч над імі.

Прысутныя выказалі салідарнасьць з пацярпелымі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, ліквідатарамі, з іхнымі сем'ямі, у якія Чырнобыль прынёс хваробы і сьмерць, з тымі, хто і дагэтуль працягваюць жыць на тэрыторыі, забруджанай радыёнуклідамі. Удзельнікі мітынгу таксама выказалі пратэст супраць палітыкі рэжыму Лукашэнкі ў дачыненні да пацярпелых ад атамнай катастрофы, супраць няўзгодненага з народам, перанесшым катастрофу, будаўніцтва атамнай станцыі каля Астраўца, што нясе новую пагрозу для радыяцыйнай бясьпекі Беларусі, здароўя і жыцьця яе грамадзянаў, якія ня хочуць другога Чарнобылю. Прысутныя таксама патрабавалі вызваленьня ўсіх палітвязьняў і сыходу дыктатара Лукашэнкі. На мітынгу гучалі поклічы "Жыве Беларусь!", "Не – новаму Чарнобылю ў Беларусі", "Беларусь – так! Лукашэнка – не!", "Свабоду палітвязьням", "Свабоду Беларусі".

***Віталь ЗАЙКА***



# Наступ на сям'ю і палітызацыя інтымнага жыцьця

Ідэалёгія левалібэралізму крок за крокам улазіць ва ўсе сфэры жыцьця і набірае таталітарныя рысы. Авангардам тут сталі мэдыі, якія адсоўваюць межы прыстойнага. Ад парнаграфічных сюжэтаў і выяваў да нецэнзурных словаў у друку і на тэлевізіі, ад абмеркаваньня фізыялёгіі рэпрадукцыі да сродкаў і спосабаў паўстрыманьня, ад выкрыцьця ўплыву "патрыярхату" ў інтымным жыцьці да смакаваньня разнастайнасьці й множнасьці адхіленьняў ад прынятай гетэрасэксуальнай манагамнай нормы – кожная галіна жыцьця сэксуалізавалася і разглядаецца праз сэксуальную і гендэрную прызму.

Увага да інтымнага жыцьця і ягоная рэгуляцыя, як вядома, пайшла не ад левакоў. З часу ўзьнікненьня эўрапэйскіх калёніяў на паўночнаамэрыканскім грунце дзейнічалі законы супраць мужалоства і мнагажонства. Ад 17-га стагодзьдзя на Поўдні ЗША існавалі законы супраць расавага мяшаньня. Гэтыя законы былі прызнаныя неканстытуцыйнымі й скасаваныя толькі ў другой палове 1960-х гадоў. Левыя сілы штоболей набывалі ахвоты да выкарыстаньня дзяржаўніцкіх мэханізмаў і потым, з скасаваньнем забароны на аборты, імпэт да рэгуляцыі празь дзяржаўныя мэханізмы стаў набіраць моцы сярод левалібэральных колаў.

Вялізны ўплыў аказала "сэксуальная рэвалюцыя" і "разьнявольваньне цела" ў канцы 1960-х—пачатку 1970-х гадоў. Нігілістычнае стаўленьне хіпі часткова ўвайшло ў мэйнстрым, разнастайныя формы патаптаньня прынцыпаў і традыцыяў, якімі датуль рэгулявалася сэксуальная мараль, сталі досыць распаўсюджанай, асьвятляемай у мэдыях, і нават моднай, зьявай.

Затым былі "змаганьне супраць СНІДу", "змаганьне за гей-правы", "гамасэксуальная рэвалюцыя", "трансгендарная рэвалюцыя", "квір-рэвалюцыя" і прызнаньне аднаполых шлюбаў у 2015 годзе. Паралельна цэлы час ішоў наступ на сям'ю і на вызначаньне натуральнага полу асобы, у сэнсе, што асоба сама мае права вызначыць свой пол.

Як яшчэ ў 19-м стагодзьдзі папярэджваў, наведаўшы ЗША, францускі гісторык і мысьляр Алексіс Дэ Таквіль, амэрыканцы ўсё робяць добра і слушна, аж пакуль іхная дзейнасьць не пяройдзе ў абсурд. І акурат сёньня ў нас на вачах адбываецца гэты пераход да абсурду. Роўнасьць мужчынскага і жаночага палоў – ідэя слушная, і наўрад хто будзе яе аспрэчваць. Таму левакі йдуць далей. Чаму пілёты авіялініяў скрозь белыя мужчыны? Чаму прызыў у войска і Selective Service (рэгістрацыя прызыўнікоў) дзейнічаюць толькі для мужчынаў? І вось ужо ў ход ідуць судовыя зыскі супраць "гендэрнай дыскрымінацыі", што выглядалі б анэкдатычна яшчэ год 10-15 таму.

Але далей роўнасьць палоў пераходзіць у патрабаваньне роўнасьці для штучна створаных дзясяткаў "новых палоў". Цяпер вар'яцкае экпэрымэнтаваньне ў гэтай сфэры перайшло ўсе магчымыя межы і знаходзіцца ў зоне абсурду. Акронім, прыдуманы для негетэрасэксуальных групаў, LGBT, перарос для "Нью-Ёрк Таймс" у LGBTQIA+, а для некаторых іншых групаў, напрыклад, Фэдэрацыі Настаўнікаў Пачатковых Школаў Антарыё – у LGGBDTTTIQQAAPP. І гэта, хутэй за ўсё, яшчэ не канчатковая форма. Цяпер Амэрыка ў палоне ідэяў іншых францускіх гісторыкаў і мысьляроў, кшталту Мішэля Фуко, які ўважаў усе грамадзкія зьявы "сацыяльнымі канструктамі", якія можна трансфармаваць або скасаваць. Памножаныя на марксізм, прыкладзены да сфэры расаў і культураў, у амэрыканскіх унівэрсытэтах і каледжах была створаная грымучая дэмагагічная сумесь, з дапамогай якой разбураюцца падваліны амэрыканскага грамадзтва і Заходняй цывілізацыі, якія базуюцца на шанаваньні індывіда, рэлігіі й сям'і.

Ствараецца ўражаньне, што частка грамадзтва, якая складае каля 3% несельніцтва, захапіла ўсю ўвагу і, фактычна, атрымлівае адну перамогу за другой, накідаючы рэшце грамадзтва свае патрабаваньні й прэтэнзіі, ад спэцыяльных прыбіральняў да пашырэньня намэнклятуры па вызначэньні полу на афіцыйных дакумэнтах і шмат іншых крэатываў. І тут ва ўжытку гэткая самая мэтодыка, што стасуецца да надуманага "сыстэмнага расізму" – праблемы 12% насельніцтва штучна і гвалтоўна трансфармуюцца ў праблему ўсяго грамадзтва.

Аўтары мэтодыкі – белая інтэлектуальная эліта, у пераважнай большасьці гэтэрасэксуальная і матэрыяльна заможная, зь левалібэральнымі перакананьнямі. Уяўныя праблемы і "зацісканьне правоў" негетэрасэксуальных меншыняў яны выкарыстоўваюць як таран для разбурэньня структураў, што стаяць на шляху іхных грандыёзных плянаў па "сацыяльнай інжынэрыі" й радыкальнай перабудове грамадзтва. Праз стасаваньне тэорыі пра "гэтэрасэксуальныя прывілеі" тая эліта імкнецца выклікаць комплекс віны ў большасьці грамадзтва і змусіць яе на саступкі й капітуляцыю. Да прэзыдэнцтва Трампа гэты працэс ішоў пераможным маршам, не сустракаючы амаль ніякага супраціву дэзарыентаванага і дэмаралізаванага грамадзтва. Падступныя эліты добра зразумелі, што кожны адміністратар любога ўзроўню, як чорт ладана, баіцца найменьняў "гамафоб" і "трансфоб", якія шчодра раздаюцца імі пры любой нязгодзе або адхіленьні ад накіданых імі новых нормаў. Так адбываецца наступ па расавых і этнічных лініях – любая прыдумка левакоў, ад зьмены "некашэрных" назоваў спартовых камандаў да зьмены расавага складу пажарных камандаў, прасоўваецца пад пагрозаю наданьня ўсім нязгодным лэйбаў "расіст", "ісламафоб", "перадузятчык" (bigot) і падобна. Пакуль гэтая мэтодыка не сустрэла ніякага супраціву ці асуджэньня і зьяўляецца эфэктоўнай зброяй супраць любой крытыкі і супраць кожнага нязгоднага апанэнта.

Вялікая перашкода для плянаў левакоў па пераўтварэньні грамадзтва і захопу ўлады над ім – рэлігія і сям'я. Супраць рэлігіі даўно мабілізаваная адукацыя, акадэмія і забаўляльная сфэра – маўляў, у сёнешнім жыцьці, у век інтэрнэту, палётаў на Марс і зачацьця ў прабірцы, месца для Бога няма. Прадстаўнікі царквы збольшага прыстасаваліся існаваць на маргінэсе грамадзтва і не аказваць аніякага адпору навале. Але сям'я застаецца наймацнейшым гарэхам для сацыяльных інжынэраў. І акурат на яе ідзе наступ праз сыстэму адукацыі, культывацыю моладзевай культуры нізкага, пераважна спажывецкага зьместу, нуль патрыятычнага выхаваньня, хутчэй наадварот. Паралельна ідзе кампрамэтацыя рэлігійных пачуцьцяў як цемрашальства і глупства, адбываецца падважваньне аўтарытэту бацькоў і зьмяншэньне магчымасьцяў іхнага ўплыву на адукацыйныя праграмы. І самае галоўнае – цэлы час прасоўваецца дыскрэдытацыя ідэі традыцыйнай сям'і. Такое змаганьне супраць сям'і да нядаўна было ў праграме дэстабілізуючай арганізацыі "Чорныя жыцьці важныя" (БЛМ). "Бацька №1, бацька №2", прыдумкі з прыназоўнікамі, мода на "ўнісэкс" у адзеньні й фрызурах – усё скіравана на разбурэньне і адмаўленьне традыцыйных полавых роляў і ўзаемаадносінаў, самога канцэпту нуклеарнай манагамнай сям'і.

Вельмі "ў час" падасьпела хваля помстлівых рэвэляцыяў супраць мужчынаў, што вылілася ў рух #MeToo. Стварыўся такі "эфэкт Вайнштэйна", калі абвінавачаньні жанчынаў, пераважна маладых, былі скіраваныя супраць мужчынаў, пераважна ва ўзросьце, пры ўладзе або пры аўтарытэце. Абвінавачаньні ахвотна падхопліваліся мэдыямі, што смакавалі пікантныя дэталі нібыта меўшых месца згвалтаваньняў або сэксуальнага мальтрэтаваньня. У якасьці доказаў і мэдыям, і судам было дастаткова словаў самых заяўшчыцаў, а выстаўленыя контр-аргумэнты, што сэксуальныя кантакты былі вынікам дамовы, з абурэньнем адкідаліся. У выніку ўся справа ператварылася ў інструмэнт, якім паасобныя амбітныя заяўшчыцы атрымалі магчымасьць узбагачаньня, адчуваючы сымпатыю

працяг на бачыне 3

# Гэбоўскі тэатар у рэжымнай вар'ятні

Рэжым злавіў чарговых "тэрарыстаў". У сетку трапілі Р. Кастусёў, А. Фядута і Ю. Зянковіч. Успамінаецца папулярны анэкдот пра "кампанію ня вельку, але бардзо пожондну".

Выглядае, што КГБ шчыльна заняўся сваім праверанным і любімым заняткам – імітацыяй раскрыцьця змоваў, дывэрсіяў, ворагаў, экстрэмістаў і тэрарыстаў. У грамадзтве, дзе няма свабоды слова, друку і палітычнага клясу, эфэкт ад такіх гульняў забясьпечаны. Найперш, тут эфэкт прапагандысцкі. Масы даведаюцца пра нібыта "карысную" неабходнасьць існаваньня КГБ, які спыніў падрыўную дзейнасьць "ворагаў" Беларусі. Начальства павышае сваю значнасьць, а на выканаўцаў праекту сыплюцца ўзнагароды, слава і (галоўнае) – зоркі на пагоны.

Калі глянуць з гэтага гледзішча, на дзейнасьць НКВД у 30-40-х гадах, то ўсе іхныя сьледзтвы, працэсы, раскрыцьці – гэта суцэльная імітацыя, інсінуацыя і фабрыкацыя, пачынаючы ад неіснуючага "Саюза Вызваленьня Беларусі", трацкісцка-зіноўеўскага і іншых "блёкаў" да так званай "справы лекараў", якую не пасьпелі раскруціць з-за сьмерці галоўнага жывадзёра, імітатара і праектанта. У сухім ападку гэтай душагубкі – мільёны загубленых жыцьцяў і бурны лінейны рух гэб'я па службовай лесьвіцы. У такіх стасунках выяўляецца галоўны характар дзейнасьці КГБ – гэтай антычалавечай камуна-савецкай арганізацыі.

У 50-80-х гадах мінулага стагодзьдзя існавала тая ж мэтодыка і мэтадалёгія, але ў малых маштабах. Пры лукашызме мэтадалёгія зноў расквітнела, акрамя таго стала яшчэ й крымінальным бізнэсам, а КГБ – прыўладным рабаўніком.

Пад чарговы гэбоўскі праект па выяўленьні тэрарызму трапілі канфармісты, якіх цяжка ўявіць сабраных разам (ды яшчэ й на барыкадах). Тым больш цікава для публікі ("вот оно што, оказывается!").

Кожнаму "тэрарысту" (Фядуту, Кастусёву, Зянковічу) гэбэ назапасіла свой кручок. Тым часам зрабіць з гэтых спадароў хоць якіх тэрарыстаў – гэта значыць паставіць спэктакаль вышэйшага пілятажу. На сёньняшні дзень, аднак, мы бачым паранойную лукашысцкую хітрыку, простую, як кол, – схапілі чарговых закладнікаў і будуць фармаваць пачку. Чакаюцца псыхічныя выступы вар'ята з надзеяй на гандаль з заклапочаным Захадам.

Колькасьць дзеючых асобаў у спэктаклі, магчыма, павялічыцца, калізіі зоймуць дых, і ўся гэтая гэбэ-драма пэратвараецца ў пошлы крымінальны фарс, дзе, каб схаваць сваю шызоідную подласьць, будуць пагражаць навешаць незадачлівым дзядзькам гадоў па шэсьць, каб усе баяліся і Захад "заклапаціўся".

Другая частка гэтага гэбоўскага спэктакля (так званыя "дэм-СМІ") пачнуць гераічна ляпіць з агаломшаных "тэрарыстаў" нешта накшталт... Зрэшты, ня стану агучваць. Што скажуць – тое і зьлепяць. Не зьбіраюся тут жартаваць, бо ня сьмешна. Агонія антынацыянальнага акупацыйнага рэжыму запаскуджвае атрутай усё людзкое жыцьцё. Генацыд разгортваецца. Кожнага беларуса могуць схапіць, аб'явіць тэрарыстам, пасадзіць і потым забіць. Пахваленьне бандытам і ляяльнасьць да антычалавечага рэжыму тут не ўратуюць.

Баюся, аднак, што і на гэты раз беларусы могуць не зразумець, што робіцца. А робіцца тое, што Масква рабіла ў Беларусі ўвесь час, зьнішчаючы наш народ. Спачатку масава зьнішчалі прыдуманых "ворагаў народа" пры дапамозе даносчыкаў і нішчыцеляў. Потым, забіўшы шмат людзей, сталі забіваць самых даносчыкаў і нішчыцеляў. Затым пусcалі ў расход забойцаў даносчыкаў і нішчыцеляў. Потым ліквідавалі забойцаў, што забівалі забойцаў даносчыкаў і нішчыцеляў (прытым іх забівалі, а яны крычалі "да здравствует Сталін") і г. д. Такі быў сталінскі генацыд.

Пры падмаскоўскім лукашызме тое вяртаецца, і мы ўжо тое бачым. Пачалі стукаць па сваіх цярпельцах і па сваіх халуях. Апошнімі пазабіваюць самых "ябацек", якія так і не зразумеюць, што генацыд – гэта вынішчэньне па нацыянальнай і этнічнай прыкмеце, а не па палітыцы, не па пазыцыі, не па ідэалёгіі і не па адносінах да сатрапа.

Каб пазьбегчы ахвяраў, трэба ліквідаваць прарасейскі акупацыйны рэжым. Тое можа зрабіць толькі нацыянальна арыентаванае па-беларуску сьведамае грамадзтва. Вось над гэтым і мусілі б працаваць разумныя людзі.

*15 красавіка 2021 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

***працяг з бачыны 2***

грамадзтва і карыстаючы зь неабавязкавасьці доказаў. Кульмінацыяй гэтай зьявы стала справа слуханьняў Брэта Каваны на пасаду судзьдзі Вярхоўнага суду ЗША, калі супраць яго выступіла нібыта некалі пацярпеўшая жанчына, што выставіла абвінавачаньні 40-гадовай даўніны. Яна не змагла прывесьці амаль ніводнай падрабязнасьці, ня кажучы пра доказы, не была нават пэўная, ці з Каванам адбылася ейная "прыгода", але цэлы час палітыкі Дэмакратычнай партыі й прадстаўнікі мэдыяў з сур'ёзнымі мінамі даводзілі амаральнасьць і падступнасьць Брэта Кавана, а словы ягонай жонкі й яго самога супраць вар'яцкага палітычнага спэктаклю падымаліся на сьмех. Другі прыклад – асуджэньне кінамагната Гарві Вайнштэйна на 23 гады зьняволеньня (значна большы тэрмін, чым даюць за наўмыснае забойства) за сэксуальныя дзеяньні, што ён учыніў у выніку супольна праведзеных вечароў зь дзьвума жанчынамі, сьведчаньні якіх, пасьля працяглага часу ад здарэньня і поўныя супярэчнасьцяў, былі прынятыя як неабвержная ісьціна.

Флангавыя ўскосныя атакі на сям'ю – дзецям у школе ўкладаецца ідэя, што яны мусяць быць незалежныя ад бацькоў, мусяць "экспэрымэнтаваць са сваёй сэксуальнасьцю", "захоўвацца ад цяжарнасьці", "вызначаць свой уласны гендэр" і г. д. У левалібэральных публікацыях даводзіцца, што прастытуцыя ёсьць "сэкс-праца", гэткая ж прафэсія, як і кожная іншая. Маўляў, "усе прафэсіі важныя і патрэбныя". Дзяржаўны орган – пракуратура Нью-Ёрку касуе перасьлед за прастытуцыю, фактычна легалізуючы гэты "бізнэс". Не дадае да сацыяльнай і псыхалягічнай стабільнасьці моладзі й легалізацыя марыхуаны, якой створаная аўра менш шкоднага наркотыку, чым, скажам, тытунь, хоць шэраг навуковых працаў зьвязваюць марыхуану са зьжэньнем узроўню кагнітыўнага ўспрыняцьця і з падвышэньнем шанцаў захворваньня шызафрэніяй, сярод шэрагу іншых адмоўных чыньнікаў.

Важнай лініяй лявацкай прапаганды адносна сям'і ёсьць змаганьне супраць кансэрватыўных ідэяў, што для выхаду з пэрманэнтнага крызісу, галечы й крымінальнасьці, у якіх знаходзіцца частка афра-амэрыканскай грамады, неабходна культываваць каштоўнасьці шлюбу і поўнай сям'і, імкненьне да атрыманьня адукацыі й прафэсыі, абстыненцыю і ўстрыманне ад кантраляваных рэчываў. Усё гэта, па адпрацаванай ужо мэтодыцы, аб'яўляецца "расізмам" і "патэрналізмам".

Яшчэ адзін напрамак, зь якога ідзе атака на сям'ю – так званыя навуковыя досьледы "эвалюцыйная біялёгія", што даводзіць адвечную палігамную і паліаморную прыроду чалавека, на якую хрысьцянства накінула кайданы манагаміі. Даводзіцца, што натуральным станам чалавецтва ёсьць мнагажонства і поўная свабода полавых стасункаў унутры любой групы індывідаў, якую яны самыя вольныя, як захочуць, называць сям'ёй.

***заканчэньне на бачыне 4***

# Слоўнік нацыянальнай ідэі

## В - як выгада

У беларускай гісторыі было шмат чаго, і ўласных распрацовак і імпартных ідэй, але адно, чаго не было ні разу – гэта разьлічэньня пэўных падзей з пункту гледжаньня палітычнай выгады. У нас ацэньваюцца або проста наяўныя вынікі, або, што яшчэ горш, намеры і памкненьні арганізатараў і ўдзельнікаў. Заўсёды падымаецца гэты, засваны на эмацыйным і па-дзіцячаму наіўным мысленьні, аргумэнт пра добрыя інтэнцыі, слушнасьць задумы і іншыя вочы-адвадзіцелі. У дарослай палітыцы, у палітыцы дарослых дзядзек, усё павінна ацэньвацца з пазыцыі выгады. І тут маецца на ўвазе не асабістая выгада, пра якую час ад часу сапраўды варта забыцца, а звычайныя пытаньні – каму тое, што адбываецца, карысна? Хто чэрпае з гэтага дывідэнты і прыбытак? Хто зьяўляецца фінальным бэнэфіцыянтам!?

Калі беларускі народ сапраўды думае пра заняцьце нейкага пасаду і пра рэальнае, а не жаданае месца ў гісторыі, ён павінен перастаць думаць па схеме: пэўна ж яны хацелі добра, але лёс ня склаўся...; дрэнныя палітыкі, але затое людзі харошыя – сапраўдныя беларусы...; можа яны і не беларусы, але ж сэрцам яны з намі.... Не, гэта ўсё так званы развод і намыльваньне вачэй. Глядзець трэба не на маску, слухаць трэба не дэкларацыі, а шукаць сапраўдны твар, які вынікае з ранейшых і актуальных дзеяньняў. У гісторыі, а яшчэ больш у палітыцы, лічыцца толькі тое, каму гэта выгадна, хто скарыстаўся сытуацыяй, каму ад гэтага ўсяго стала лепей, а каму горш...

Здаецца, настолькі ўсё лягічна, але мы яшчэ ні разу гэтым прынцыпам не кіраваліся.

**Віталь ВОРАНАЎ**

***заканчэньне з бачыны 3***

Таму легалізацыя палігаміі й паліаморы зьяўляюцца цяпер “новым франтыерам” левалібэральнага змаганьня, і праз юрыдычныя мэтады, крок за крокам, павет за паветам, штат за штатам ідзе праца падрыву манагамнага канцэпту сям’і. Адэпты палігаміі не хаваюць, што яны карыстаюцьцца тымі ж мэтадамі, якія ўжывалі актывісты руху за аднаполыя шлюбы.

Галоўнае тое, што праз сыстэму адукацыі сем’і фактычна расколваюцца па адносінах да розных дыскусіяў, што вядуцца ў грамадзтве – прызыдэнцтве Трампа, дзейнасьці антыфа і БЛМ, вынікаў выбараў 2020 году, дзейнасьці адміністрацыі Байдана, паліцыі, стаўленьні да “сыстэмнага расізму” ды шмат чаго яшчэ. Як казаў марксыстоўскі пэдагог Паўло Фрэйрэ, левым сілам ня трэба ўзбройвацца ды захопліваць пошту і тэлеграф, хопіць проста выхаваць новых людзей, якія зробяць так, як іх навучылі. Таталітарызм лявацкіх тэорыяў і практыкаў, калі пад дэмагагічныя развагі пра “патрыярхат”, “белыя прывілеі”, “гетэра-прывілеі”, “цыс-прывілеі”, “дыктатуру мэрытакратыі” прасоўваецца ідэя патрэбы разбурэньня ўсяго, на чым стаіць Заходняя цывілізацыя, у тым ліку сям’і, валадарства закону і правоў індывіду, а ня групы. Прыдуманы штучны “расізм” – усё ўбудавана ў яго, і ўсё рухаецца ім. І менавіта ён, а таксама зьнішчэньне ўплыву сям’і, зьяўляецца рухавіком лявацкага захопу ўлады.

Мы бачым, што амэрыканская моладзь замбаваная ў орўэлаўскія догмы, ненавідзіць сваю краіну і капіталізм, плады якога яна тым ня менш ахвотна спажывае. Яны гатовая да гвалту ў імя нібыта высокіх ідэяў сацыяльнай і расавай справядлівасьці. Каб даведацца, што гэта прынясе, досыць паглядзець на каляпс у афра-амэрыканскай сям’і, а таксама ўспомніць, як бацькі й дзеці мэтанакіравана рабіліся ворагамі ў Савецтах за часоў Сталіна або ў Кітаі часоў культурнай рэвалюцыі.

Справа трансфармацыі грамадзтва, “сацыяльнай інжынэрыі” зайшла досыць далёка, і, магчыма, кропка незвароту ўжо пройдзеная. Тым ня менш створаная Заходняй цывілізацыяй калясальная спадчына высокіх пачуцьцяў, эмоцыяў, ідэяў і фактаў, зьвязаных зь сям’ёй, каханьнем, узгадаваньнем і адукацыяй дзяцей нікуды ня зьнікла, яна назаўсёды застанецца незьнішчальным рэсурсам для новых пакаленьняў, што, ужываючы лёгіку і здаровы сэнс, вернуць назад каштоўнасьці традыцыйнай сям’і, нуклеарнай і манагамнай, што пачынаецца з пачуцьцяў двух людзей – мужчыны й жанчыны, якія, па словах Бібліі, “злучацца адно з адным, і зробяцца целам адзіным”.

***Віталь ЗАЙКА***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| П. Скрабко | 70 |
| Д. Джум | 60 |
| А. Дзежыц | 60 |
| А. Лышчык | 60 |
| А. Нікіціна | 60 |
| П. Панасевіч | 60 |
| П. Усовіч | 60 |
| В. Цыбулька | 60 |
| А. Якубенка | 60 |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах,ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

***Шаноўныя сябры!***
*Калі ласка, своечасова аплочвайце сяброўскія складкі і абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”. (Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.)*

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

| | |
|---|---|
| Д. Джум | 30 |
| А. Дзежыц | 30 |
| В. Карпейчык | 30 |
| А. Лышчык | 30 |
| А. Нікіціна | 30 |
| П. Панасевіч | 30 |
| П. Скрабко | 30 |
| П. Усовіч | 30 |
| А. Якубенка | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich.***